# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 7 (833) ГОД XVII БЕЛАСТОК 13 ЛЮТАГА 1972 г. ЦАНА 60 гр.




Лясное жніва набірае размаху зімой, калі мароз прытармазіць жыццё лесу, калі дрэвы спыняць свае «сокі». Тады драўніна адзначаецца самай высокай якасцю і тады ад світання да ночы безупынна раздаецца пранізлівы звон пілаў і апошні, перадсмяротны стогн падаючых дрэў.

Ідзем сцяжынкай нурэцкага бору. Дзесяць тысяч гектараў дзяржаўнага і столькі ж прыватнага сялянскага лесу. Гэта рэшткі даўнейшай Драгіцка - падляшскай дрымучай пушчы.

Маім правадніком па нурэцкім бары з'яўляецца вопытны ляснічы з Нурэцкага надлясніцтва.

Над нашымі галовамі спакойна шумяць паднебныя сосны, сумна павесіўшы бязлістныя галінкі, ледзь-ледзь калышуцца бела-чорныя бярозы, застылі ў зімовым сне асіны і ў пажоўклую вопратку схаваліся ад марозу адзінокія дубы. Цішыня.

— Далёка яшчэ? — пытаю ляснічага.

— Што вы такі слабы? — здзіўляецца ляснічы. Нашы рабочыя праходзяць у дзень, лічачы там і назад, больш чым па 10 кіламетраў. Да самай рабочай стаянкі, калі мерыць ад Нурца, каля 25 кіламетраў.

— І гэтую адлегласць вашы рабочыя вымушаны пераадольваць «на сваіх дваіх»?

— Стараемся, — паясняе ляснічы, — падвозіць іх уласным транспартам, але не заўсёды гэта магчыма, а лес сячы мы вымушаны дакладна паводле плана, а не там, дзе каму спадабаецца. Вось у 1971 годзе высяклі мы каля 30 тысяч кубічных метраў драўніны. Адначасова аднак на падпарадкаванай нам тэрыторыі паявілася амаль 400 гектараў маладняку. 300 га пасадзілі самі сяляне на сваіх прыватных дзялянках, а рэшту залесілі мы на дзяржаўны кошт.

Свіст механічнай пілы і трэск ламанага галля аб'явіў нам, што мы набліжаемся да месца працы лесарубаў. І сапраўды, сярод зялёных ядлоўцаў і елак замільгацелі каляровыя ахоўныя каскі. Мы прывіталіся і пажадалі добрай працы.

А тут жа да ляснічага падскочыў адзін з рабочых. У руках трымаў кускі рэжучага ланцуга ад механічнай пілы. Твар яго адлюстроўваў злосць.

— Вы нам, пане ляснічы, лепш бы даставілі добрыя ланцугі да гэтых пілаў, бо гэтыя, самі паглядзіце, — працягнуў гэты няшчасны ланцуг ў бок ляснічага, — яны рвуцца, як шнурок з паперы.

— Я сам ведаю пра гэта, — бароніцца ляснічы, — але што магу зрабіць? Я ж гэтых ланцугоў не прадукую, а канадскіх маем мала.

Аказваецца, што пратэст рабочага поўнасцю апраўданы. Ланцуг канадскай прадукцыі прынамсі ў 20 разоў мацнейшы ад краёвага, які рвецца пры першым болей цвёрдым перарэзе. Такім чынам зніжаецца прадукцыйнасць працы і, зразумела, заробкі.

Дапамога ляснічаму падаспела з зусім нечаканага боку. Рухомая «кухня» якраз даставіла абед: *«кожнаму рабочаму па літроўцы» смачнага мяснога гарохавага супу ў кансерве за 13 зл.*

Усё раптам становіцца малаважнае. Лесарубы спыняюць працу і грэюць на вогнішчы сваю страву.

Пасля абеду і весялей на свет паглядзець, і смачней папяросу закурыць. Дык пытаю пра ўмовы іх працы, пра іх жыццё.

*(Працяг на стар. 5)*



*Люда Карчэўская, Марыся Базылюк і Галінка Карчэўская дэманструюць працы сваіх спраўных рук.*

## Спраўныя рукі

Гуртком спраўных рук пры пачатковай школе ў Клейніках кіруе Л. Жаброўская, настаўніца практычна-тэхнічных заняткаў у школе. Зараз у гуртку 23 члены — вучні, якія цікавяцца мастацтвам, маюць здольнасці ў гэтым кірунку. Члены гуртка праектуюць і робяць дэкарацыю школы, прымаюць удзел у рысунковых конкурсах, арганізаваных асветнымі ўладамі, Войскам Польскім і іншымі ўстановамі. Гурток спраўных рук арганізуе выстаўку сваіх прац для бацькоў, якія прыбываюць у школу на сходы.

У гуртку выдзяляецца арыгінальнасцю прац і ўвогуле мастацкімі здольнасцямі Уладзімір Купрыяновіч, вучань VII класа. Валодзя з'яўляецца таксама выдатнікам і ў іншых прадметах.

На практычна-тэхнічных занятках і на ўроках малюнкаў дзеці выконваюць шмат прац, патрэбных пры вядзенні заняткаў па іншых прадметах або заняткаў у сельскагаспадарчай школе. Вучні вучацца таксама шыць на швейных машынах. (ак)



*Настаўніца Л. Жаброўская на ўроку.*



*Валодзя Купрыяновіч са сваёй скульптурай з кораня.*

*Фота А. Карпюк*




■ 21 студзеня адбыўся справаздачна - выбарны сход гуртка БГКТ у Яловым (Дуброўскі павет). Пасля справаздачы, дыскусіі над ёю і пасля прыняцця плана працы было выбрана новае праўленне гуртка на чале з Паўлам Макулай. У сходзе гэтым прыняла ўдзел інструктар ГП Ірэна Аношка.

■ Справаздачна - выбарныя сходы адбыліся нядаўна таксама ў гуртках БГКТ у Грабенях (Дуброўскі павет), Суковічах (Сакольшчына) і ў Бялявічах у Беластоцкім павеце.

■ Праўленне навуковага гуртка пад старшынствам Юркі Туронка 26 студзеня падсумавала сваю дзейнасць у апошняй кадэнцыі і прыняло план працы на бягучы 1972 год.

■ 27 студзеня на чарговай штомесячнай нарадзе штатных працаўнікоў ГП была зачытана гадавая справаздача аб працы БГКТ у 1971 годзе. Другі пункт нарады датычыў спраў падрыхтоўкі справаздачна-выбарных канферэнцый у аддзелах.

■ Пасяджэнне прэзідыума ГП 28 студзеня адбылося з удзелам старшынь аддзелаў БГКТ. Сакратар ГП Янка Зенюк праінфармаваў прысутных аб прапанове Міністэрства ўнутраных спраў адносна прыняцця праекту новай формы фінансавання нацыянальных таварыстваў і прапанове бюджэту для БГКТ на 1972 год. Гэтая справа выклікала вялікую дыскусію, у якой выступілі ўсе прысутныя. Затым бухгалтар ГП Галена Мялешка прадставіла выкананне бюджэту за 1971 год. Пасля прыняцця гадавой справаздачы аб дзейнасці таварыства і абмяркоўцы ходу справаздачна-выбарнай кампаніі ў БГКТ прэзідыум зацвердзіў для аддзелаў лік дэлегатаў на VII з'езд нашай арганізацыі. І так, гарадскі аддзел у Беластоку на канферэнцыі выбярэ 11 дэлегатаў, беластоцкі павятовы аддзел — 8, бельскі — 19, дуброўскі — 3, гданьскі — 3, гайнаўскі — 51, сямяціцкі — 11, сакольскі — 8 і варшаўскі — 6.

■ Бельскі харавы калектыў 29 студзеня ў памяшканні гарадской рады нарадовай арганізаваў вечарыну. Праходзіла яна вельмі весела і культурна. Танцы перапляталіся песнямі калектыўнымі і паасобных салістаў. Іграў дасканала аркестр з Малліннікаў. (мх)

## ДА VII З'ЕЗДУ БГКТ

# ПРАЦАВІТЫ ГОД

Прайшоў ужо першы месяц 1972 года. Для дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства быў ён вельмі плённы. У асноўным звяне нашай арганізацыі — гуртках — амаль усюды ўжо адбыліся справаздачна-выбарныя сходы. Праўленні гурткоў аднавіліся, выбраны ў іх новыя людзі, ініцыятыўныя і з запалам да працы, актывізаваўся і ранейшы гуртокоўскі актыў. Адбылася актуалізацыя лічбовага стану членаў нашай арганізацыі. Многа асоб у мінулыя гады выехала са сваіх мясцовасцей або спыніла сваю актыўную дзейнасць у БГКТ з прычыны старэйшага ўзросту ці занятасці ў іншых арганізацыях. Ачышчэнне нашых гурткоў ад так званых «мёртвых душ» — гэта вельмі патрэбная справа. Тым больш, што разам з гэтым працэсам адбываецца разбудаванне БГКТ: уступаюць у нашу арганізацыю новыя члены, паўстаюць новыя гурткі.

Прайшла ўжо справаздачна-выбарная канферэнцыя ў сямяціцкім аддзеле БГКТ. У ёй удзельнічалі не толькі дэлегаты з Сямяціцкага павету, але прысутнічалі таксама прадстаўнікі амаль усіх аддзелаў БГКТ, каб потым, улічыўшы вопыт Сямяціч, належным чынам правесці справаздачна-выбарныя канферэнцыі ў сваіх аддзелах. Такі практычны ўрок арганізацыйнай працы вельмі прыдатны нашым інструктарам і актывістам аддзелаў БГКТ.

У Галоўным праўленні БГКТ амаль усе камісіі правялі свае пасяджэнні, на якіх падвялі вынікі працы за мінулы год і акрэслілі заданні на будучы, абмеркавалі і прынялі гадавыя планы працы. Творчыя аб'яднанні ГП БГКТ — літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Белавежа» і навуковы гурток — таксама правялі ацэнку мінулагодняй працы і вызначылі напрамкі сваёй дзейнасці ў наступіўшым годзе.

Таксама ў студзені месяцы сваімі першымі пасяджэннямі, на якіх была падзелена праца і вызначаны адказныя за паасобныя галіны дзейнасці, пачалі сваю актыўную дзейнасць камісія па падрыхтоўцы правядзення VII з'езду БГКТ і камітэт святкаванняў 90 гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Прэзідыум ГП БГКТ на сваім чарговым

*(Працяг на стар. 4)*

Пачатак на стар. 1

# ПРАЦАВІТЫ ГОД

пасяджэнні абмеркаваў і прыняў план працы нашай арганізацыі на першы квартал бягучага года.

Хутка і даволі спраўна адбылося распаўсюджанне «Беларускага календара» на 1972 год, пашыраецца ўжо папулярызацыя другога нумара «Белавежы» і зборніка вершаў Уладзіміра Гайдука.

Словам, гэты год наша арганізацыя пачала добрым стартам. Цяпер самае важнае, каб гэты тэмп утрымаць у далейшым. Задачы ж у нас вялікія і працаёмкія.

На першы план уваходзіць справа далейшага павелічэння ліку членаў нашай арганізацыі і павышэння якаснага ўзроўню дзейнасці БГКТ. Асабліва бельскі аддзел, а таксама беластоцкі гарадскі і варшаўскі аддзелы зараз жа павінны разгарнуць актыўную дзейнасць разбудовы БГКТ шляхам прыняцця новых членаў, у першую чаргу моладзі, якая найбольш ахвотна горнецца да нашай арганізацыі і актыўна ў ёй працуе. Трэба таксама прадумаць і вырашыць праблему рэарганізацыі гарадскіх гурткоў-аграмадзін у Беластоку, Бельску, Гайнаўцы і Варшаве, якія складаюцца са звыш 200 членаў. Надта ж вялікі тэрытарыяльны абсяг і значная колькасць членаў у адным гуртку стаяць на перашкодзе іх сістэматычнай і інтэнсіўнай працы. Ці не лепш было б падзяліць іх на меншыя гурткі паводле гарадскіх кварталаў ці нават утварыць з іх гурткі БГКТ пры ўстановах і прадпрыемствах, павялічыўшы пры гэтым колькасць іх членаў? Застаецца ўсё яшчэ актуальнай справа стварэння гурткоў БГКТ у Любліне і Вроцлаве. Там ёсць людзі, ахвотныя працаваць у нашай арганізацыі, і наш абавязак даць ім такую магчымасць.

Справаздачна-выбарныя канферэнцыі ў аддзелах, якія адбудуцца ў лютым і сакавіку, выявяць, напэўна, новыя заданні і праблемы ў дзейнасці нашай арганізацыі. Гэта яшчэ больш узмоцніць БГКТ і ўзбагаціць формы яго дзейнасці. Сярод іх, трэба лічыць, знойдзецца справа правядзення ў вясеннелетнюю пару фэстынаў БГКТ, якія сталі ў нас традыцыйнай і вельмі ж карыснай формай працы. Ці не варта падумаць аб тым, каб некаторыя аддзелы, якім гэта пад сілу (напрыклад, Гайнаўка ці Бельск), правялі іх не па адным, як дагэтуль, а па 2—3, кожны — ў іншай мясцовасці павету?

Праз некалькі тыдняў пачнуцца павятовыя агляды самадзейных мастацкіх калектываў БГКТ і павятовыя конкурсы «Беларуская песня—72». Варта прыкласці ў гуртках усе намаганні, каб нашыя самадзейнікі ўзорам папярэдніх год паклапаціліся пра высокі ўзровень выканаўства ды масавы ўдзел у аглядах. Перад кіраўнікамі і настаўнікамі школ, дзе выступае навучанне беларускай мовы, стаіць вялікае заданне правядзення вечарыны для дарослых са свайго асяроддзя, прысвечанай 90 гадавіне з дня нараджэння светачаў нашай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэта ж самае стаіць і перад нашым актывам у мястэчках і гарадах, які падрыхтуе купалаўскія і коласаўскія акадэміі і вечарыны для свайго асяроддзя.

Пералічаныя задачы — гэта толькі невялічкая жменька сярод тых абшырных спраў, якія паўстаюць перад нашай арганізацыяй. Іх проста немагчыма пералічыць. Але ўсе яны пад сілу членам і звенням БГКТ. У атмасферы агульнадзяржаўнай адновы і актывізацыі гаспадарчага і грамадскага жыцця, якая пануе ў нашым краі пасля VI з'езду ПАРП, здзяйсненне амбітных заданняў нашай арганізацыі становіцца і гонарам і абавязкам усіх нас — членаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

*Мікалай Гайдук*

---

АГЛЯДЫ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ І ДРАМГУРТКОЎ

## Крыху радасна, крыху сумна

### ГАРАДОК З СТАРОЙ І НОВАЙ ПЕСНЯЙ

Удзел у аглядзе «Беларуская песня — 1972» прымуць дзве слаўныя Ніны з Гарадка: Ніна Мушынская і Ніна Цыванюк. Выступяць з песнямі: «Біла жонка мужыка» — «колішняя песня, ад бабуляў, ад дзядуляў» і «Песня пра Беласточчыну» — гэта сучасная беларуская савецкая песня, адаптаваная Нінай Мушынскай для Беласточчыны.

### МІКУЛІЧЫ ТАКСАМА НЕ ПАДВЯДУЦЬ

На мінулагоднім аглядзе добра паказалася група моладзі з Мікуліч. Атрымалі мы і зараз супольны адказ з Мікукуліч ад сясцёр Марыі і Веры Манцюк і іх сяброўкі Надзі Нікалаюк, што і ў гэтым годзе яны прымуць удзел у аглядзе на беларускую песню. Трыё мікуліцкіх дзяўчат будзе спяваць «Лясную песню» і «Ой, хмелю, хмелю».

Сёстры Манцюк хочуць выступіць таксама ў дуэце, з чаго мы вельмі рады. Забылі яны толькі напісаць нам, што ў дуэце будуць спяваць.

### АЖ 9 ДРАМГУРТКОЎ З ПАВЕТУ

Беластоцкі аддзел БГКТ прадстаўляе да агляду аж 9 драмгурткоў.

Гэта: Міхалова — з п'есай «Прымакі», кіраўнік гуртка Аня Купрыяновіч.

Пянькі — з «Мікітавым лапцем», кіраўніком гуртка з'яўляюцца тут Надзя і Ян Азяблы.

Бялявічы — з п'есай «Вываражыла», кіраўнік — Пецяа Госцік.

Гарадок — з п'есай «Злавацца не трэба», пад кіраўніцтвам Ніны Мушынскай.

Новая Воля — з «Мікітавым лапцем». працуюць над п'есай усе супольна.

Баброўнікі — з «Прымакамі», пад кіраўніцтвам Марысі Кузьміч.

Юшкаў Груд — з «Люцынкай-інжынерыхай», пад супольным кіраўніцтвам усіх удзельнікаў.

Рыхтуюцца да ўдзелу таксама гурткі ў вёсках Залукі і Свіслачаны. Будзем удзячны за загалоўкі п'ес, з якімі выступяць.

Як відаць, адзіны з усіх аддзелаў БГКТ, беластоцкі аддзел, інструктарам якога з'яўляецца Валя Філіпюк, ужо ў месяцы студзені ведаў, які гурток і з чым прыступіць да нашых гадавых аглядаў. Мала, што Валя Філіпюк ведала, яна ж сама арганізавала свае гурткі да ўдзелу ў аглядах. Вынікі працы цешаць!

Не ведаем, колькі драмгурткоў прыступіць да агляду ў іншых аддзелах, але здаецца, што беластоцкі аддзел будзе рэкардзістам. Гэты факт прыносіць гонар і павету, і павятоваму аддзелу БГКТ, і яго інструктару Валянціне Філіпюк.

Валя называе нам яшчэ вёскі Страшава, Скрабляк, Мастаўляны, Дзерняхова, якія маглі б прыступіць да агляду. «Але з імі ўжо зробім на другі год», — канчае Валя.

### АГУЛЬНАЯ СІТУАЦЫЯ Ў СПРАВЕ АГЛЯДАЎ...

...не найлепшая. Час бяжыць. А цяжка даведацца ад павятовых інструктараў ці ад павятовага актыву, хто, якія драмгурткі, якія людзі прымуць удзел у аглядах. (Інфармацыю пішу ў канцы студзеня). Сведчыць гэта аб недахопах у арганізацыі павятовых аглядаў. Нельга далей адкладаць, калі хочам, каб нашы агляды на песню і драмгурток былі паказчыкамі спраўнасці і прыгажосці нашай песні і нашага слова.

Справа аглядаў і іх арганізацыйны стан стаялі на апошнім пасяджэнні камісіі культуры БГКТ. На камісіі пацвердзілася слабое заавансаванне аглядаў ва ўсіх паветах, акрамя Беластоцкага. Іншыя аддзелы яшчэ не раскрылі шырока сваіх крылаў. Камісія звяртаецца да актыву аддзелаў з просьбай пасяшацца, не падвясці ў спаборніцтве.

(вл)



*Сёстры Манцюк з Надзяй Нікалаюк на аглядзе «Беларуская песня — 71».*
*Фота Цаф — Сянько*

---

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## Мікалай Зялінскі



Мікалай Зялінскі — гэта малады гаспадар і старшыня сельскагаспадарчага гуртка ў Ляшуках (Гайнаўскага павету). Ляшуцкія сельгасгурткоўцы маюць шмат сельскагаспадарчых машын: 2 абмалотачныя агрэгаты, 2 рухавікі ўнутранага згарання, электрарухавік, млын-сьрутоўнік, камплект машын для перапрацоўкі льну, сячкарню, сеялкі, зграбалкі і г.д. Зараз усе сельгасгуртоўскія машыны перахоўваюцца ў паспулдзельчай аборы, якая была адрамантавана і электрыфікавана. У тым жа памяшканні абсталяваны млынок і машыны для перапрацоўкі льну. Абслугоўвае іх сам Мікалай Зялінскі. Сцерці і атрапаць лён прыязджаюць у Ляшукі нават сяляне з суседняга Беластоцкага павету: з Сушчы, Веек або Падазеран. Навакольныя сяляне маюць вялікую выгоду, бо машыны труць і трэплюць лён нават без падсушвання яго. Дзякуючы вялікай самаахвярнасці і гаспадарскаму падыходу да ўсіх «кулковых» машын Мікалая Зялінскага, сельскагаспадарчы гурток у Ляшуках працуе рэнтоўна і без ніякіх непатрэбных страт. За гэта аднасяльчане вельмі шануюць і цэняць старшыню. Усе яны згодна сцвярджаюць, што Мікалай Зялінскі — гэта чалавек добрай работы. Арганізаваў ён у мінулым годзе сустрэчу мясцовых жыхароў з артыстамі з Лодзі. Гэтага роду мерапрыемства карысталася вялікім зацікаўленнем і засталося ў памяці маладых і старых як прыемны ўспамін. Варта адзначыць таксама цеснае шматгадовае супрацоўніцтва сельскагаспадарчага гуртка з мясцовым гуртком вясковых гаспадынь, які ўзначальвае Эма Харкевіч. Сельгасгурток арганізаваў вясковыя дзяцінцы на час руплівых прац у полі, а таксама купіў жанчынам электрапральку.

*Тэкст і фота: Я. Цялушэцкі*

---

БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНДР БАРШЧЭЎСКІ

## Перыяд Вялікага княства Літоўскага

### ПЕРАКЛАДНАЯ ЛІТАРАТУРА — ЧАСТКА III

Свецкія творы. Апрача перакладаў рэлігійнай літаратуры ў перыяд Вялікага княства Літоўскага перакладаліся таксама на беларускую мову свецкія творы. Найбольшую папулярнасць набылі такія творы, як «Аповесць аб Троі», «Александрыя», «Аповесць пра Баву-каралевіча», «Аповесць пра Трыстана і Ізольду». «Гісторыя аб Атыле каралю угарскім», «Сказанне аб Дракуле, князі Муцянскае зямлі», «Аб пабоішчы Мамая».

Творы гэтыя, як мяркуюць, перакладаліся найчасцей з польскай мовы. Пры некаторых аднак сказана, што былі яны перакладзены з «кніг сербскіх». Зразумела, што аповесць «Аб пабоішчы Мамая» — твор старарускі — была перакладзена з рускага арыгіналу. Цікава, што многія названыя намі творы маюць у сваім тэксце фрагменты, якіх няма ў польскіх тэкстах. Быць можа, што беларускія перакладчыкі карысталіся апрача польскіх і іншымі перакладамі або свабодна фантазіравалі, уводзячы ў змест твора ўласныя апісанні.

Амаль усе названыя творы былі заходнееўрапейскага паходжання. Былі яны напісаны ў Італіі, Францыі, Венгрыі.

У сувязі з тым, што пры разглядванні старарускай літаратуры мы ўжо гаварылі аб «Александрыі» і «Повесці аб Троі», сёння не будзем займацца гэтымі творамі.

Частка адзначаных намі твораў мае характар воінска-прыгодніцка-сенсацыйна-рыцарскага рамана. Асновай іх з'яўляюцца незвычайныя прыгоды выключных постацей. Пяройдзем да характарыстыкі некаторых свецкіх твораў, перакладзеных на беларускую мову.

«Аповесць пра Баву-каралевіча» ў беларускім перакладзе мела загаловак «Гісторыя о княжати Кгвідоне». У аповесці расказваецца аб князі горада Антоны Гвідоне, якога звяла са свету жонка Мілітрыса. Тое ж самае намервалася яна зрабіць з сынам Бавой. Бава, аднак, адчуў згубу і ўцёк ад маткі да армянскага караля, у якога служыў конюхам. Падчас вайны караля з ворагамі Бава ўчыніў шмат подзвігаў. За ўсё гэта кароль паабяцаў Баве аддаць яму ў жонкі сваю дачку Дружнену. Непрыязныя Баве людзі высылаюць яго на двор ворага цара Арменіі, султана, які намерваўся забіць яго. Султанава дачка аднак выратоўвае Баву, і ён вяртаецца да Дружнены, якую паспелі ўжо выдаць замуж. Бава ўцякае разам з Дружненаю. У пагоню за ўцекачамі высылаюць Пулкана, які з'яўляецца паўсабакам, паўчалавекам. Бава аднак з'ядноўвае Пулкана, які становіцца яго верным памочнікам. Бава пакідае жонку і нованароджаных двух сыноў, ды адпраўляецца ў свой родны горад Антону. Здабыўшы горад, распраўляецца з маткай і яе любоўнікам Дадонам. У гэтым часе атрымоўвае вестку, што ільвы разарвалі яго жонку і Пулкана. Бава жэніцца з Малгарыяй. Падчас вяселля з'яўляецца здаровая і цэлая Дружнена з сынамі. Бава застаецца пры старой жонцы, а Малгарыю выдаюць замуж за іншага.

Зразумела, што такі сюжэт, сенсацыйныя прыгоды, незвычайная постаць героя, фантастычныя падзеі не маглі не цікавіць тагачаснага чытача. Можна думаць, што беларуская шляхта з захапленнем чытала гэты твор і са здзіўленнем сцвярджала, што цікавае не мусіць быць рэлігійным. З Беларусі «Повесць пра Баву» трапіла на Украіну і ў Расію, дзе таксама карысталася вялікай папулярнасцю.

Другі твор «Аповесць аб Трыстане і Ізольдзе» ў беларускім перакладзе меў загаловак «Аповесць аб Трышчане». Ізольда ў гэтым перакладзе называецца Іжотай. Змена прозвішчаў выступае і пры іншых героях твора. Заходняя Еўропа ведала многія версіі гэтага твора. Беларускі пераклад у многім нагадвае, але ў многім і адрозніваецца ад французскай версіі.

Галоўны герой твора — Трышчан — чалавек вялікай адвагі і гонару. Шырока паказана ў творы яго дзяцінства, а пасля буйнае юнацтва. Трышчан дзейнічае перш за ўсё пры двары свайго дзядзькі караля Марка. На гэтым двары Трышчан забівае свайго праціўніка Амурата. Пры гэтым аднак і сам атрымоўвае цяжкую рану. У пошуках добрых лекараў адпраўляецца ў Ірландыю, дзе сустракае прыгожую каралеўну Іжоту. Іжота дзейнічае на Трышчана, як бальзам. Выздаравеўшы Трышчан адпраўляецца разам з Іжотай на двор караля Марка. Іх падарожжа ператвараецца ў цудоўную вандроўку закаханых. Згодна з традыцыяй, на дарозе закаханых паяўляюцца шматлікія перашкоды. Найгоршай з іх з'яўляецца кароль Марк, які без памяці закахаўся ў Іжоце і ў хуткім часе ажаніўся з ёю. Засмучаны Трышчан кідаецца зноў у бойкі і турніры. У адным з турніраў быў ён зноў цяжка паранены. Хворы целам і душою ведаў, што можа яго вы-

**ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ**

# УЛАСНАСЦЬ ДЛЯ АРАНДАТАРАЎ

Калі ўласнік зямлі не апрацоўвае яе сам або пры дапамозе членаў сям'і больш чым пяць год да ўвядзення ў жыццё закона з 26 кастрычніка 1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці сялянскіх гаспадарак, тыя, якія зямлю апрацоўвалі, могуць старацца, каб атрымаць гэтую зямлю на ўласнасць. Найчасцей такім спосабам карыстаюцца з зямлі арандатары.

Гэта не адносіцца да выпадкаў, калі ўласнікамі зямлі з'яўляюцца асобы, якія выконваюць з выбару функцыі ў дзяржаўных, кааператыўных і грамадскіх органах і ў дзень 4 лістапада 1971 года жылі з зарплаты за гэтыя функцыі, калі перад выбарам на гэтую пасаду праца на гаспадарцы з'яўлялася асноўнай крыніцай іх утрымання.

Арандатары, а таксама той, хто дагэтуль апрацоўваў зямлю на іншых асновах, чым арэнда, могуць старацца, каб прызналі ім зямлю на ўласнасць, толькі тады, калі:

1) маюць адпаведныя кваліфікацыі ў галіне сельскай гаспадаркі;

2) дагэтуль так апрацоўвалі зямлю, што існуе ўпэўненасць, што і надалей будуць гаспадарыць на адпаведным узроўні;

3) праца на сельскай гаспадарцы з'яўляецца для іх асноўнай крыніцай утрымання;

4) асабіста або з дапамогай членаў сям'і апрацоўвалі зямлю без перапынкаў прынамсі пяць год перад 4 лістапада 1971 г.

З гэтага вынікае, што хто да гэтага часу нядбала апрацоўваў зямлю, уласнасці на яе атрымаць не можа, хоць бы адпавядалі ўсе іншыя ўмовы. Таксама той, хто ў асноўным утрымоўваўся з зарплаты, а зямля з'яўлялася дадатковай крыніцай даходаў, не атрымае ўласнасці.

Прэзідыум не прызнае ўласнасці зямлі таксама тым, хто мае права яе атрымаць, але не згаджаецца на гэта.

Калі той, хто карыстаецца з чужой зямлі, не адпавядае вышэй пададзеным умовам і не можа атрымаць уласнасці на зямлю, або адпавядае гэтым умовам, але не згаджаецца атрымаць зямлю на ўласнасць, дзяржава бярэ зямлю сама на ўласнасць. Аднак, калі няма ўмоў да загаспадарання зямлі, дзяржава зямлі не пераймае.

Не могуць атрымаць зямлі на ўласнасць тыя, якія хоць бы адпавядалі вышэй пададзеным умовам, але карыстаюцца з зямлі, якая з'яўляецца ўласнасцю дзяржавы, чужаземцаў, або рэлігійных саюзаў.

У асноўным арандатар або той, хто з зямлі карыстаўся з іншага тытулу, абавязаны сплаціць грошы ўласніку за зямлю паводле цэн, устаноўленых для продажу дзяржаўных земляў. У практыцы прыдзецца сплачваць толькі тады, калі ўласнікамі з'яўляюцца асобы непаўналетнія, якія вучацца або нязольныя да працы. Іншыя асобы ў асноўным атрымаць сплат не маюць права.

*В. Склубоўскі*

---

Пачатак на стар. 1

# ЛЯСНОЕ ЖНІВО

— Зайздросціць нам няма чаго, — адклікаецца адзін з іх. — Да нядаўняга часу рабочы мог у нас зарабіць не больш дзвюх тысяч злотых. Ад першага снежня 1971 года зарплату нам намнога павысілі. Зараз можна зарабіць 12 залатовак за гадзіну працы.

— Што вы наракаеце? — павысіў голас пасівелы ўжо лесаруб. — Вы не ездзілі на заробкі ў Белавежскую пушчу, не прасілі ў розных падрадчыкаў міласці, каб толькі прыняў на работу за абыякую плату. Не было тады ні гарачых абедзікаў, ні службовай вопраткі, ні механічных пілаў, ні гэтых гаршкоў, — ён узяў у руку ахоўную каску, — што цяпер прымушаюць насіць на галаве, ніхто, братцы мілыя, не турбаваўся пра тое, калі і якім чынам расколюць табе галаву ці зломяць хрыбет.

— Але ж дзед раз'ехаўся! — сказаў той, што ваяваў за ланцугі. — Толькі забыў, што мы не пры санацыі, а ў сацыялістычнай Польшчы жывем і добра ведаем, што нам прыслугоўвае.

*Віктар Рудчык*

*Фота Цаф —Сянько*



---

# „ГАРАДСКІЯ ГОСЦІ" ў ВІТАВЕ

У час зімовых канікул у вёску Вітава (Гайнаўскі павет) прыехала многа моладзі, якая цяпер вучыцца ў сярэдніх школах. Належыць яна да БГКТ і ЗМВ. На маладзёжным сходзе нарадзілася думка стварыць у сябе мастацкі гурток. Уступіла ў яго 15 асоб. Пад кіраўніцтвам Анатоля Аўсенніка і Мікалая Федарука (мастацкі кіраўнік) самадзейнікі падрыхтавалі п'есу «Гарадскія госці» Алеся Барскага. З мастацкай праграмай выступілі яны 7 студзеня г.г. у мясцовай школе. Вечарына прайшла з вялікім поспехам. Сабралася больш 100 асоб. У мастацкай праграме, апрача п'есы, былі савецкія песні, скетчы, гумар і г.д. Найлепш выконвалі свае ролі Галіна Іванюк (вучаніца Гайнаўскага беларускага ліцэя), Уладзімір Нічыпарук, Тамара Малмышка (вучаніца Бельскай школы медсясцёр), Міхась Малмышка і іншыя. Пасля мастацкай часткі адбылася танцавальная вечарына пры магнетафоне і адаптары.

Зараз самадзейнікі з Вітава намераны выехаць з мастацкай праграмай у суседнія вёскі Палічну і Старыну. (яц)

---

**ТАК БЫВАЕ...**




«Сям'я, як я цябе ненавіджу! Чаму не кожны мае шчасце быць сіратою». Так напісаў малады француз у класным сачыненні, які меў страшэнна суровых бацькоў. (Гэтыя словы ў адной са сваіх прац цытуе сацыёлаг Жасэйн).

Ненавідзеў сваіх бацькоў і Казік Стасевіч з Новага Вострава, што ў Сакольскім павеце. Бацька яго, столяр, быў хітраваты, задзёрны, у яго хаце быў нявольніцкі рэжым. Загады яго, разумныя і неразумныя, талковыя і бесталковыя, павінны былі выконвацца безапеляцыйна, без ніякіх дыскусій.

Калі Казік падрос, ён пачаў бунтавацца супраць дэспатычнай натуры бацькі, пачаў дамагацца ад яго чалавечых адносін. За кожную найменшую непакорнасць наступалі тады цялесныя пакаранні Казіка.

Казік станавіўся дарослым. Яму, як і яго аднагодкам хацелася мець грошы на дробныя кавалерскія выдаткі, хацелася павесяліцца, выпіць чарку маладзёжную, закахацца. І пакахаў ён прыгожую суседку. Але ўсё гэта не было згоднае з думкай скнэры-бацькі, усё гэта было забаронена. Урэшце Казік вырваўся з кальчастых засекаў роднай хаты і без ведама бацькоў наняўся пастухом у Цілічанцы каля Супраслі. Але Цілічанка не за высокімі гарамі і глыбокімі марамі. Усяго 30 км. ад Новага Вострава. Хутка дайшла вестка да бацькоў, дзе знаходзіцца іх сын і чым займаецца. Брыдка было бацькам, што роднае дзіця шукае хлеба і спакою ў чужых людзей. Знайшла яго маці і ўгаварыла яна Казіка вярнуцца дамоў. Не вярнуўся б, але надта моцна сумаваў па дзяўчыне, у якой нярааз хаваўся ад жорсткіх здзекаў бацькі. І вось Казік у хаце. І зноў тое самае. За пастушы паступак, за ўцёк зноў набіў яго бацька, зноў страшэнна скрыўдзіў яго, стаптаў яго асабовасць. Казік быў ужо паўналетнім і ўваходзіў у бурлівы перыяд змагання за «права да самавызначэння». Стасевіч бачыў, што ўпартасць і непаслухмянасць сына прычыняецца да змяншэння яго абсалютнай бацькоўскай улады, і станавіўся яшчэ больш азвярэлы ды ніякай дробязі не дараваў сыну, выклікаючы нянавісць да сябе і часткова да маткі, якая не бараніла сына перад фізічнымі пакараннямі. Казік гора сваё пачаў тапіць у чарцы, на якую трэба было выкрадаць збожжа і прадаваць суседу за паўцаны. Казік піў і краў. Краў і піў. І пастанавіў помсціць бацьку за свае крыўды, вядомыя людзям і невядомыя.

Быў гэта 1947 год. На Сакольшчыне не было яшчэ спакойна. Узброенае падзямелле давала аб сабе знаць асабліва ў падлесных вёсках. Аднойчы вечарам нехта заглянуў у вакно Стасевічаў і выстраліў. Стасевіч павіс мёртвы на суседзе, які ў той час быў у іх хаце і ўсё бачыў уласнымі вачыма.

Маці няраз прысутнічала падчас вострых успышак паміж бацькам і сынам і чула рознага роду пагрозы сына бацьку і наадварот. Дакарала Казіка і плакала. Плакала пасля перад суседзямі і дакарала, што нейкі вораг іх сям'і застрэліў мужа. Гэтак гаварыла суседзям, але сыну сыпала праўду, і Казік не мог ад яе ўцячы. Для вока людскога маці пачала складаць ахвяры ў касцёлах, каб выявіць забойцу. І да Чэнстаховы паслала на цудоўнае выяўленне праўды. А сусед, сведак забойства, ведаў усю праўду, але маўчаў. Казік тым часам стаў яшчэ больш запівацца, стаў нейкім ненармальным і каціўся ад злачынства да злачынства. Раніцай падчас даення кароў зарубаў у хляве маці і цела яе схаваў у гной, дзе стаялі авечкі, а пасля планаваў вывезці з гноем на поле і там яе закапаць. Пасля вырашыў яе закапаць на панадворку. Выкапаў яму, нібыта на пасадку яблыні. Але ўжо гэтым разам усе Казіка падазравалі ў новым забойстве, і ад людскіх вачэй нідзе не мог ён схавацца. На трэці дзень у хату Казіка ўвалілася група людзей, якія звязалі яго і сталі пагражаць смерцю, калі не скажа, дзе ён падзеў матку. Казіка вывелі на панадворак і прывязалі, як жывёлу, да слупа. Ён маўчаў. Пасля сказаў, дзе цела маці. Адкапалі яе цела і паднеслі да ўвязанага сына.

— Пацалуй маці, — крычалі некаторыя, соваючы Казіку куксачы. Не глядзеў ён на людзей. Яны яго білі. Пасля Казік укленчыў і сказаў ціха: «Даруй, мне мама». Пасля пацалаваў, устаў і далей без слоў зносіў удары. А яго білі кіямі і забілі. Пахавалі забойцу сваіх бацькоў за агароджай могілак, а маці на могілках каля бацькі.

*Міхась Хмялеўскі*

---

А шчадна - пазыкавыя спулдзельні ў нашай краіне маюць доўгую і багатую традыцыю. Першыя спулдзельні ўзніклі ў Польшчы ўжо ў трыццатых гадах XIX стагоддзя.

Першыя грашовыя суполькі на Беласточчыне ўзніклі пазней, чым у іншых раёнах краіны, бо ў пачатку XX стагоддзя. Найперш узніклі яны ў Сувалках, а праз дзесяць гадоў у Тыкоціне. Былі гэта нетрывалыя пагадненні, якія даволі часта распадаліся па некалькіх месяцах дзейнасці з-за недахопу грошай або супярэчлівых спраў сялян і рамеснікаў. У міжваенны перыяд наглядалася далейшае развіццё пазыкавых спулдзельняў. Трэба аднак аб'ектыўна сцвердзіць, што іх паслугамі карысталіся толькі больш заможныя сяляне і рамеснікі, паколькі працэнт ад пазыкавай сумы быў вялікі (10%). Пасля другой сусветнай вайны на Беласточчыне актыўна развіваліся ўсе формы спулдзельчага руху, у тым выпадку і ашчадна-пазыкавыя спулдзельні (СОП). Сёння СОП-ы — гэта сапраўдныя банкі сялян. Усебакова




абслугоўваюць яны сельскую гаспадарку: даюць крэдыты на інвестыцыі, на мінеральныя ўгнаенні, на куплю хатняй жывёлы, на кантрактацыі, на сельскагаспадарчыя машыны, на развіццё рамесніцтва і г.д. Апрача таго, СОП-ы пераанялі ад ГС-аў фінансавае абслугоўванне скупкі сельскагаспадарчых пладоў і хатняй жывёлы, а таксама распаўсюджванне мінеральных угнаенняў. Зараз на Беласточчыне існуе 101 СОП, а таксама 20 аддзяленняў і 93 сталыя пункты СОП. Найбольш ашчадна-пазыкавых спулдзельняў знаходзіцца ў Беластоцкім, Гайнаўскім і Дуброўскім паветах. Аб'ядноўваюць яны каля 300 тысяч членаў, уклады якіх на ашчадныя кніжкі СОП складаюць суму больш 959 мільёнаў злотых. СОП-ы пазычылі сялянам і рамеснікам 858 мільёнаў злотых. За так званыя адсоткі (працэнт) СОП-ы выплацілі 30 млн. злотых. Уласнікі будаўнічых кніжак СОП толькі ў 1971 годзе пабудавалі 175 дамоў і 239 сельскагаспадарчых будынкаў. У пабудове знаходзіцца яшчэ 179 дамоў і 214 сельскагаспадарчых будынкаў. Увогуле найбольш крэдытаў бяруць сяляне на куплю мінеральных угнаенняў (213 млн зл), на куплю хатняй жывёлы (161 млн зл), на растэрмінаваную куплю мэбляў і іншага хатняга абсталявання (94 млн зл.), на будаўніцтва і рамонты (83,5 млн зл.) і г.д.

Апрача асноўнай дзейнасці СОП-ы вядуць і культурна-асветную дзейнасць на вёсцы. Арганізуюць яны супольна з ЗМВ і КГВ кулінарныя курсы, сустрэчы з цікавымі людзьмі, конкурсы па жывёлагадоўлі і г.д. Дагэтуль СОП-ы ўключаліся таксама ў арганізацыю конкурсаў на найпрыгажэйшую вёску Беласточчыны, на найпрыгажэйшы агарод і ў іншыя мерапрыемствы. На гэтага роду мерапрыемствы СОП-ы выдалі толькі ў мінулым годзе 2 390 тысяч злотых.

Варта адзначыць, што СОП пасля VIII пленума ЦК ПАРП дзеля ўдасканальвання працы ў галіне абслугоўвання сялян стварыла дадаткова 43 касы. Зараз сяляне не трацяць дарма часу ў чарзе па грошы за прададзеную жывёлу ці збожжа. Сяляне дамагаюцца яшчэ, каб з кніжак СОП можна было браць грошы ў кожнай касе і каб дзеля заахвочвання сялян да ашчаднасці прадаваць ім у першую чаргу больш каштоўную сельскагаспадарчую машыну, напрыклад, трактар, а таксама, каб абнізіць працэнт на кароткатэрміновыя крэдыты і час іх сплаты прадоўжыць з 18 месяцаў да двух гадоў. У Ваяводскім аддзеле СОП будзе створана спецыяльная камісія, якая зоймецца аналізам устарэлых распараджэнняў, абавязваючых пры налічэнні працэнтаў і пры пазыках. Новая камісія будзе таксама займацца лепшым выкарыстаннем грашовых фондаў на мадэрнізацыю існуючых будынкаў СОП, на разбудову пры іх пачакальняў, а тым самым — стварэннем лепшых умоў да працы штатным працаўнікам СОП-аў.

*Я. Цялушэцкі*

---

лечыць толькі Іжота. Зрэшты, Іжота таксама мучыцца страшэнна без Трышчана і за плячыма свайго мужа высылае Трышчану любоўныя лісты. Трышчан звяртаецца да караля Марка з просьбай прыслаць да яго Іжоту. Кароль, не падазраючы нічога дрэннага, згаджаецца. Іжота паяўляецца пры Трышчане і сваёй клапатлівасцю ды кахаючым сэрцам лечыць Трышчана. Аповесць канчаецца сцвярджэннем, з якога вынікае, што аўтар не ведае, ці Трышчан жыве ці можа памёр у часе напісання аб ім твора.

Гэта беларуская версія «Аповесці». Заходнееўрапейскія версіі «Аповесці» крыху іншыя. Там гаворыцца аб смерці Трышчана і Ізольды і аб тым, што на іх магіле выраслі дрэвы, якія спляліся галінкамі ў вечным яднанні і вернасці.

Паяўленне «Аповесці пра Баву» і «Аповесці пра Трышчана» ў Беларусі сведчыла аб нарастанні зацікаўлення тагачаснага беларускага чытача свецкай літаратурнай тэматыкай. Героі названых «Аповесцей» не мелі нічога супольнага з аскетычнымі постацямі, выступаючымі ў рэлігійнай літаратуры.

Прыгодніцка-любоўныя творы ўзбуджалі фантазію, клікалі ў далёкія краіны, вучылі кахаць і ненавідзець. Словам — узбагачалі чалавека, расшыралі свет яго мараў і ўяўленняў.

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## КОЖЫНА ЗМЯНЯЕ АБЛІЧЧА

Кожына — малая вёска ў Бельскім павеце. Знаходзіцца над рачулкай Локніцай. Некалькі год таму назад не было тут ні электрычнага святла, ні крамы, ні малачарні. На вуліцы, калі ішоў дождж, коні тапіліся ў балоце. Добра, што была блізка рака і балота хутка знікала.

Нядаўна трапіў я ў гэту вёску. Вачам не хочацца верыць, якія тут змены. Вёска электрыфікавана. — Пане, — сказаў адзін селянін, — нават да ўсіх каляністаў падаводзілі святло.

Новая крама і малачарня. Прасторная школа. На вуліцы новы брук, а нават і ходнік. Большасць сялян маюць мураваныя будынкі, а нават і з другім паверхам. На дахах відаць тэлевізійныя антэны. Некалькі гаспадароў у гэтай вёсцы маюць нават свае самаходы. Словам, жывуць па-новаму. Дзень за днём Кожына прыгажэе і змяняе сваё абліччa.

*Л. Леанюк*




## Просьба ў „НІВУ"

Нова рубрыка для нас
Называецца «Парнас».
Што напішам ў сваім часе,
Надрукуйце у «Парнасе».

Думаю, што й дзядзька Квас
Падбярэ умоўны час
І напіша штось для вас,
Каб змясціць у «Парнас».

Можа цётачка Мальвіна
І суседка Міхаліна
Падбяруць таксама час
І пачнуць пісаць ў «Парнас».

Хай тут выкажуцца людзі,
Хто чытаць ахвотна будзе?
Ці не трэба больш пісаць?
Мо «Парнас» ліквідаваць?

Мне сябры вось так сказалі:
Мы б заўсёды пачыталі.
У «Ніве» зацікавіў нас
Асаблівенька «Парнас».

Гэты верш цяпер у вас —
Змесціце яго ў «Парнас»?
Просіць знаны вам хлапчук,
Завецца Мікалай Краўчук.

*М. Краўчук,*
*Патока*

*АД РЭДАКЦЫІ: Чаму ж не змясціць? Мы ж пісалі, што будзем усё друкаваць, што прышлюць у сваю рубрыку чытачы. Аднак, нам здаецца, вы не дакладна зразумелі наш намер. Рубрыка называецца «Парнасік», а не «Парнас», як вы хочаце нам унушыць. Ніколі нам падобны намер і не сніўся. Сведчыць аб гэтым надпіс пад загалоўкам, у якім мы стараліся ясна выказаць сваю ідэю.*

## Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Ці караны судом на пазбаўленне свабоды з адтэрмінаваннем выканання кары на час пробы пасля заканчэння часу пробы лічыцца караным? Ці пасля заканчэння пробы кара будзе аўтаматычна выцерта і ў якім часе?

АДКАЗ: Калі прыгавораны на пазбаўленне свабоды з умоўным адтэрмінаваннем кары на час пробы не зробіць у гэтым часе новага злачынства, або сваімі паводзінамі не дасць падставы да таго, каб суд кару прымяніў, у паняцці закона лічыцца такім, як бы і не быў караны. Карта аб яго пакаранні з картатэкі прыгавораных выкідаецца, і на пытанне дзяржаўнай установы, накіраванае да рэестру прыгавораных, які вядзецца пры Міністэрстве справядлівасці, атрымоўваецца адказ, што даная асоба не была карана.

Гэткі факт наступае пасля ўплыву 6 месяцаў ад часу паспяховага заканчэння перыяду пробы. Перыяд пробы лічыцца ад правамоцнасці прыгавору, г.зн. калі прыгавор не быў апеліраваны пасля ўплыву часу, у якім можна было злажыць рэвізійную жалабу, а калі справа праходзіла праз другую інстанцыю — ад даты прыгавору суда рэвізійнай інстанцыі.

## «РАКІТА»

**Як мы ўжо паведамлялі, выйшла чарговае выданне ГП БГКТ — зборнік вершаў Уладзіміра Гайдука п.з. «Ракіта». Кніжка каштуе 5 злотых і можна яе набыць (або выпісаць за залічэннем паштовым) у ГП БГКТ.**

**Адначасова інфармуем, што ў ГП БГКТ можна таксама набыць іншыя выданні таварыства, а перш за ўсё «Беларускі каляндар» на 1972 год (15 зл.), новы літаратурны альманах «Белавежа» (20 зл.) і пласцінкі беларускіх народных песень у выкананні Міхася Забэйды-Суміцкага (пласцінкі ў мінулым годзе былі пераацэнены і цяпер замест 50 злотых каштуюць 30 злотых). Адрас ГП БГКТ: ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11.**



*На каньках.*

*Фота: Я. Цялушэцкі*




*Дарагое Сэрцайка!*

Я закончыла сельскагаспадарчую школу і вярнулася дамоў. Мела я ісці працаваць, але мама мая хоча, каб я засталася дома. А вось чаму. Мяне часта, вельмі часта наведвае хлапец з нашай вёскі. Ён вельмі спадабаўся маёй маме, і яна хацела б, каб я за яго выйшла замуж. Ён, як гаворыць мама, абяцаў маме, што ажэніцца са мной. Але зіма ўжо прайшла, і хоць Грышка прыходзіць да мяне надалей, але аб жаніцьбе нічога мне не кажа. Да мяне перасталі нават прыходзіць дзяўчаты і хлопцы, бо цэлымі днямі і вечарамі праседжвае Грыша. Ды і сам ён не мае куды ісці, бо не мае сяброў (яны ўжо пажаніліся).

Парай мне, Сэрцайка, што рабіць: ці чакаць, пакуль Грыша са мною ажэніцца, ці ізноў пачаць хадзіць да сяброўак на вечарынкі, пакінуць Грышу, а мо ісці далей вучыцца ў тэхнікум, бо вучылася я вельмі добра і маю ахвоту вучыцца далей.

Чакаю хуткай парады.

*Таня з Гайнаўшчыны*

*Таня!* Дзіўна цяпер нават чытаецца пісьмо, дзе дзяўчыне кандыдата ў мужы выбірае маці. На шчасце, мінулі тыя часы, і сённяшнія дзяўчаты выбіраюць сабе самі мужоў. А яшчэ дзіўней выглядае тое, што твой Грышка замест таго, каб табе першай сказаць, што хоча з табой ажаніцца, гаварыў гэта тваёй маці, а ты надалей не ведаеш, з якой мэтай ён праседжвае ў цябе днямі і вечарамі, ці таму, што ты яму падабаешся, ці таму, што ён не мае куды падзецца, не мае сяброў. І мне тут цяжка табе трапна адказаць на гэтае пытанне. Таму лепш не сядзі ты ў хаце і не чакай, пакуль Грыша запрапануе табе жаніцьбу, а, калі маеш ахвоту і здольнасці, ідзі далей вучыцца. Тады хутчэй знойдзеш сваё месца ў жыцці.

*Жадаю ўсяго найлепшага!*
*Сэрцайка*

## ПІСЬМО З ВРОЦЛАВА

Нарадзіўся я ў адной з сялянскіх хат Гайнаўскага павету. З малых год слухаў апавяданні дзеда, які многа зазнаў гора і катаванняў, будучы ў нямецкім лагеры.

Вайсковая служба мне спадабалася, таму і пайшоў вучыцца ў гэтым напрамку. Аднак развітанне з роднай мовай прымушае сумаваць па родных мясцінах. Шкада, што тут няма беларускіх клубаў. У іх чалавек адчуваў бы сябе як дома. Але не аб гэтым хацеў я напісаць. Хачу апісаць мае заўвагі, якія я адчуў, будучы дома ў водпуску.

Па-першае, хачу пахваліць школу з Рыбакоў (Беласт. пав.). Едучы з дзедам на возе, я ўбачыў, што магіла байца, якая была непрыкметнай, была цяпер апраўленай, а найважнейшае — ляжалі на ёй кветкі. У мяне, як і ў майго дзеда, заблішчэлі вочы. Хацелася проста з радасці заплакаць. Аднак гонар на гэта не пазволіў. Даведаўся я ад майго дзеда, што такі добры ўчынак зрабілі вучні рыбацкай школы.

Прыпомніў мне дзед:

— Помніш, Коля, як ты калісьці агароджваў магілу ў «Даліне» з хлопцамі.

— Помню, — адказаў я.

Больш ніхто не адзываўся. Так мы ў глыбокай задуме праехалі некалькі мінут. Я сказаў толькі дзеду, што аднак не забываюць нашых абаронцаў маладыя.

Я яшчэ малады, аднак такія пастулкі мяне цешылі і будуць цешыць. Я цвёрда ўпэўнены, што такія добрыя ўчынкі цэняць старэйшыя людзі, а таксама маладыя, якія разумеюць паняцце «вайна».

Ад усёй душы ад унука і дзеда Салаўя з Рудні жадаем вучням і апекунам рыбацкай школы, а таксама ўсім тым, якія апякуюцца магіламі нязнаных і знаных байцоў, усяго найлепшага, шчасця, здароўя, радасці, поспехаў на штодзень, а таксама жадаем, каб усе іх мары маглі споўніцца ў новым, шчаслівым годзе.

Па-другое, хачу паганіць кандуктара ПКС нр. АО—8749, які не хацеў затрымацца на прыстанку ПКС і забраць адзінокага салдата. Такія пастулкі трэба кляйміць. Машына павінна была хаця б затрымацца і кандуктар павінен спытаць, у чым справа. Ніхто не ведае, якія справы мае чалавек, які едзе ў горад, тым болей вайсковы, які часам прыедзе толькі паглядзець сваіх родных. Павінны інакш паступаць кандуктары ПКС-аў.

*Н. Мароз*

## ЁЛКІ

### У БЕЛЬСКУ

22 студзеня ў нашым ліцэі адбылася ёлачная ўрачыстасць. Пачалася яна выступленнем нашага ансамбля, які паўстаў у гэтым годзе. Прыняў ён назву «Рэлякс», а кіраўніком яго з'яўляецца вучань трэцяга класа Анатоль Леўчук. У мастацкай частцы было таксама многа гумарэсак. Пасля мастацкай часткі (заняла яна каля гадзіны часу) вучні разышліся па сваіх класах, дзе атрымалі пачкі і пачастунак, які падрыхтаваў бацькоўскі камітэт. Пасля зноў сабраліся ўсе ў спартыўнай зале на забаве. Хоць і было крыху зацесна,але дзякуючы нашаму добраму (хоць яшчэ вельмі маладому) школьнаму аркестру, а таксама прыемнаму настрою, усе вучні гулялі вясёла.

*Янка, Бельскі беларускі ліцэй*

### У ДУБІЧАХ ЦАРКОЎНЫХ

Кожны год школы арганізуюць для вучняў навагоднія ёлкі. У Дубічах Царкоўных урачыстасць гэта адбылася 22 студзеня ў святліцы. Пачалася яна мастацкай часткай: дзеці спявалі розныя песні, чыталі вершы, выступалі ў скетчах, расказвалі жарты. Галоўным пунктам урачыстасці быў аднак Дзед Мароз, які раздаваў дзецям падарункі. Малодшыя вучні сапраўды былі ўсхваляваны яго постаццю і мовай. Вельмі цяжка было пазнаць у Дзеду Марозе грам. Мікалая Герасімюка, які дасканала сыграў сваю ролю.

Ёлка закончылася школьнай забавай, на акардэоне іграў Янка Рыбак.

*М. Панфілюк*



*На ёлцы ў гарадскім аддзеле БГКТ.*

*Фота А. Карпюк*




*Васіль Іванюк, Градочна, Гайнаўскі павет.* Вашай справай зацікавіліся. Адказ даем пісьмова.

*Саўка.* Коматаўскім парадкам зацікавіўся цэнтр АБС. Неўзабаве ён вашу карэспандэнцыю абнародуе. Чакаем наступных лістаў ад вас.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Nauczyciel z przedmieścia" (angielski), 15—16, „Cyrk bez granic" (rumuński), 17—18, „Romantyczni" (polski), 19—20.

**Нараўка**

„Na torze czeka morderca" (czeski), „Przeciw Wranglowi" (radz.), 16—20.

**Нарва**

„Straszliwe skutki awarii telewizora" (czeski), „Los Golfos" (hiszpański), 16—20.

**Чыжы**

„Niezawodni przyjaciele" (radz.), „Spotkanie w „Bajce" (polski), 16—20.

**Дубічы Царкоўныя**

„Pejzaż z bahaterem" (polski), „Świeć moja gwiazdo" (radz.), 16—20.

**Арэшкава**

„Kto wierzy w bociany" (polski), „Niewolnicy" (USA), 19—20.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Effi Briest" (NRD), „Kardiogram" (polski), 16—20.

**Орля**

„Mały" (polski), „Lokis" (polski), 16—20.

**Райск**

„Czerwony namiot" (radz.), 16—20.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Słońce obcego nieba" (jugosł.), 15—16. „Martwa fala" (polski), 17—18, „Pożądanie zwane Anadą" (czeski), 19—20.

**Мельнік**

„Czarne skrzydła" (polski), 15—16, „Zielone smugi" (radz.), 17—18, „Kaszabe" (polski), 19—20.

**Мілейчыцы**

„Na Rusi" (radz.), 15—16. „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), 17—18, „Kapitan Korda" (czeski), 19—20.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Perła w koronie" (polski), „Film o miłości" (radz.), 16—20.

**Новы Двор**

„Rezydent wywiadu" (radz.), 16—20.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wrzystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7216 E-3



 

